# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№11 (222)
лістапад 2020



Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”

## У НУМАРЫ:

### Каляндар ад “Будзьма!” на 2021 год ужо ў продажы!

Серыя насценных календароў “Не маўчы па-беларуску!” – гэта адзін з самых паспяховых і запатрабаваных беларускамоўных праектаў апошняга часу.

Старонка 2

### Хопіць гвалту, прыміце волю народа!

Адкрыты ліст пісьменніцкай супольнасці.

Старонка 2

### Беларусь сёння — гэта адзіная краіна ў свеце, якая актыўна гоніць інавацыі прэч!

Мікіта Мікада, сузаснавальнік кампаніі PandaDoc, супраць якой завялі палітычную справу, распавёў, што адбылося за тры месяцы з распачынання справы, што адбываецца з ягонай кампаніяй і IT-бізнесам наогул.

Старонка 5

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома



# ПАДАРЫ ЗНЯВОЛЕНАМУ СВЯТА!

Зусім хутка наступяць Каляды і Новы год – светлыя і радасныя святы, якія мы так любім адзначаць з нашымі блізкімі, у коле сям’і і сяброў. Аднак у нашай краіне за кратамі знаходзіцца шмат людзей, з якіх толькі адных палітычных вязняў ужо больш чым сотня.

Сярод зняволеных ёсць палітыкі і журналісты, праграмісты і блогеры, бізнесмены і творцы, медыкі і настаўнікі – прадстаўнікі абсалютна розных прафесій, таму што сёння кожны з тых, хто адкрыта выказвае сваю палітычную пазіцыю, прагне волі і развіцця нашай краіне, можа ў любы момант апынуцца ў вязніцы. І ўсё недарэмна! Перафразуючы знакаміты выраз, яны сядзяць за кратамі, каб жыла Бацькаўшчына.

Беларусы як ніколі раней ад жніўня гэтага года дэманструюць усяму свету, а найперш адно аднаму, незвычайную салідарнасць і ўзаемападтрымку. Мы ведаем, шмат хто з вас, дарагія нашыя чытачы і сябры, піша вязням, дапамагае валанцёрам і робіць шмат карыснага і важнага ў гэты складаны час, але таксама разумеем, што ёсць і стома, і выгаранне, брак часу і сіл.

Але давайце не забывацца, што ўсе гэтыя выпрабаванні зробяць нас яшчэ мацнейшымі, яшчэ бліжэйшымі адно да аднаго. Таму мы звяртаемся да вас з заклікам: напярэдадні Калядаў і Новага года **дашліце віншаванне ці ліст падтрымкі зняволеным. Далучайце да гэтай справы сваіх сваякоў, суседзяў і дзетак**, бо нішто так не грэе сэрца, як шчыры дзіцячы малюнак. Гэты просты жэст ад кожнага з нас падтрымае людзей у зняволенні.

Мы моцныя ў сваёй салідарнасці!
Будзьма разам!

**Спіс адрасоў палітвязняў глядзіце па спасылцы: https://spring96.org/be/news/49510**

## ВЫЙШЛА КНІГА ПРА МІКОЛУ РАВЕНСКАГА

Што мы ведаем пра аўтара гімна “Магутны Божа”?

Беларускі інстытут навукі і мастацтва і Згуртаванне “Бацькаўшчына” менавіта зараз, калі гімн “Магутны Божа” можна пачуць у мінскіх дварах, метро, гандлёвых цэнтрах, цэрквах ды на партыйных сходах, выпусціла кнігу, прысвечаную аўтару – Міколу Равенскаму. Беларусы спяваюць “Магутны Божа” на ўсіх кантынентах у дыяспарных асяродках – ну, можа, апроч Антарктыды.




У найлепшым выпадку людзі прыгадаюць, што аўтар верша – Наталля Арсеннева. Пра аўтара музыкі забываюць. Або ўстаўляюць наша любімае “музыка народная”. Мабыць, для сціплага па жыцці Міколы Равенскага такое азначэнне было б найлепшым кампліментам.

Кампазітар, хормайстар, музычны крытык, арганізатар хораў у Беларусі і на чужыне. Аўтар вядомых мелодый накшталт “Люблю наш край” ці “Беларусь, мая шыпшына”, а таксама нашмат менш знаных – “Гімна ваўчанятаў” ці “Скаўцкай малітвы”.

**Алесь Кіркевіч, budzma.by**

**Працяг чытайце на сайце zbsb.org**

навіны "Будзьма беларусамі!"

# КАЛЯНДАР АД "БУДЗЬМА!" НА 2021 ГОД УЖО Ў ПРОДАЖЫ!

Доўгачаканы насценны каляндар з папулярнай серыі "Не маўчы па-беларуску!" на наступны год ужо дасяжны для набыцця!

Адметныя слоўцы, гумар і самаіронія – так можна ахарактарызаваць канцэпцыю календара на 2021 год. Беларусь цяпер праходзіць праз вельмі складаны, але важны этап свайго развіцця. Кожны дзень нясе новыя выпрабаванні. Мы перажываем за краіну і яе будучыню, за сябе і сваіх блізкіх. Таму распрацоўшчыкі календара зрабілі яго максімальна пазітыўным, бо перакананыя, што гумар і іронія заўсёды дапамагаюць. Да ўсяго, з календаром нашмат прасцей будзе вучыць сакавітую беларускую мову.

Нагадаем, што серыя насценных календароў "Не маўчы па-беларуску!" – гэта адзін з самых паспяховых і запатрабаваных беларускамоўных праектаў апошняга часу. Набывайце каляндар з выдатнымі, адметнымі малюнкамі мастачкі Дашы Мандзік у апрацоўцы дызайнера Анатоля Лазара ў наступных сталічных крамах:

Замовіць каляндар можна ў інтэрнэт-кнігарнях knihi.by, kniganosha.by і symbal.by.




навіны

# ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ З ТУРМЫ ЗВЯРНУЎСЯ ДА ВЕРНІКАЎ



"Я буду ягоным голасам", – кажа Вольга Севярынец у відэа, у якім чытае ліст Паўла Севярынца з мінскага следчага ізалятара нумар 1, што на вуліцы Валадарскага.

У лісце Павал Севярынец разважае, што такое народ, якая нацыянальная ідэя беларусаў, што ім патрэбна для адраджэння і пераадолення цяперашняга перыяду несправядлівасці і рэпрэсій, калі ў Беларусі адновіцца закон.

"Духоўны корань зла ў Беларусі – нераскаяны камунізм. Сённяшнія нашы праблемы – гэта толькі лёгкі душок чырвонага пекла, якое 100 гадоў гарыць у нас пад нагамі. Пекла, у якім загінулі мільёны беларусаў. Падручнікі, помнікі, чырвоныя святы... ды наогул уся кандовая, скляпаная скрываўленымі сярпамі і молатамі саўковая сістэма. Немцы выракліся нацызму. Гэтаксама, усенародна, з пакаяннем, мусім выракацца камунізму і мы", – перакананы Павал Севярынец.

svaboda.org

# ХОПІЦЬ ГВАЛТУ, ПРЫМІЦЕ ВОЛЮ НАРОДА! АДКРЫТЫ ЛІСТ ПІСЬМЕННІЦКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

Мы, беларускія літаратары, выказваем сур'ёзную занепакоенасць тым, што цягам апошніх 100 дзён у нашай краіне назіраецца пастаянная эскалацыя гвалтоўных дзеянняў з боку сілавых структур і адміністрацыйных прызначэнцаў да грамадзян, якія выходзяць на мірныя акцыі пратэсту і салідарнасці.

Такіх маштабаў масавых рэпрэсій не зведвала больш за сорак гадоў ні адна з дзяржаў Еўропы. За гэтыя 100 дзён арыштавана каля трыццаці тысяч чалавек, пакалечана больш за чатыры тысячы чалавек, заведзена каля тысячы нематываваных крымінальных спраў, загінула восем чалавек. У дзяржаве ігнаруюцца элементарныя правы чалавека. На вінаватых у забойствах і скалечваннях людзей не заводзяцца крымінальныя справы. Дапускаецца збіццё звязаных затрыманых, што забараняецца сусветнай юрыдычнай практыкай нават у адносінах да ваеннапалонных. З вуснаў кіраўніцтва краіны гучаць наўпроставыя ўказанні адлічваць студэнтаў з навучальных установаў і звальняць з працы ўсіх супрацоўнікаў, якія не згодныя з дзяржаўнай палітыкай, што з'яўляецца непасрэдным парушэннем дзейнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Эскалацыя гвалту, пашырэнне прасторы беспакаранасці, пазбаўленне беларусаў базавых канстытуцыйных правоў вядуць да глыбокага доўгатэрміновага нацыянальнага крызісу ва ўсіх сферах грамадскага жыцця: эканамічнага дэфолту, міжнароднай ізаляцыі, падзення Беларусі на самае дно цывілізацыйнага рэйтынгу.

Мы схіляем галаву перад мужнасцю і настойлівасцю беларускага народа, выказваем спачуванне ўсім, хто пацярпеў і страціў родных, і звяртаемся да ўладаў, кіраўнікоў дзяржаўных структур, чыноўнікаў, якія захавалі цвярозы розум, з патрабаваннем: пакуль вы не абрынулі краіну ў бездань гвалту і ўсеагульнага крызісу, – неадкладна спыніце масавыя рэпрэсіі, здзекі з людзей, якія хочуць перамен, прызнайце сваю паразу і прыміце волю народа!




17.11.2020

**Ліст адкрыты да падпісання ўсімі літаратарамі! Далучайцеся ў каментарах на сайце, у сацыяльных сетках і праз электронную пошту sbp@lit-bel.org**

навіны

# By_Help: улады спісалі грошы ў 500-600 чалавек, якім мы дапамаглі

Пра гэта падчас прэс-канферэнцыі расказаў сузаснавальнік кампаніі Аляксей Лявончык.

Паведамленні пра спісанне сумаў дапамогі, атрыманых пацярпелымі падчас акцый пратэсту, сталі з'яўляцца ў аўторак 10 лістапада. Першапачаткова гаварылася пра дзясяткі заблакаваных рахункаў альбо спісаных банкам сум.

На прэс-канферэнцыі 12 лістапада сузаснавальнік кампаніі By_Help Аляксей Лявончык паведаміў, што гаворка ідзе пра сотні выпадкаў.

"На гэты момант вельмі прыблізная ацэнка – гэта 500–600 выпадкаў, – паведаміў Лявончык. – Гаворка ідзе пра грошы, якія пераводзіліся на прыватныя рахункі пацярпелых з майго асабістага банкаўскага рахунку".

Лявончык таксама расказаў, што ў некаторых выпадках не толькі спісваліся сумы дапамогі, але і блакаваліся банкаўскія рахункі пацярпелых падчас пратэстаў. У тым ліку тыя, на якія не прыходзіла дапамога.

"Да нас прыходзіць каля 100 заявак па дапамогу ў дзень"

Пра гэта падчас прэс-канферэнцыі расказаў сузаснавальнік кампаніі Аляксей Лявончык.

Аляксей Лявончык паведаміў, што кампанія не спыніць прыём заявак на атрыманне дапамогі ад пацярпелых падчас акцый пратэсту, нягледзячы на спісанне раней атрыманых беларусамі сродкаў і крымінальнай справы супраць самога Лявончыка.

"Мы не спыняем прыём заявак, – сказаў Лявончык. – За дзень мы атрымліваем прыкладна 100 заявак. Больш за тое, мы чакаем павелічэння іх колькасці пасля падзей апошніх дзён".

Аляксей Лявончык таксама адзначыў, што кампанія By_Help знойдзе спосаб пералічваць дапамогу пацярпелым ад дзеянняў сілавікоў бяспечным спосабам, а таксама акажа юрыдычную дапамогу тым, хто сутыкнецца з ціскам з боку праваахоўных органаў.




У прэс-канферэнцыі таксама прыняў удзел прадстаўнік фонду BYSOL Яраслаў Ліхачэўскі. Гэты фонд дапамагае звольненым паводле палітычных прычын і адлічаным студэнтам. Як расказаў Ліхачэўскі, яны атрымліваюць па 20-30 заявак у дзень. Усплёск запытаў на дапамогу адбыўся пасля 26 кастрычніка.

Па дапамогу ў фонд BYSOL звярнуўся 461 звольнены сілавік. Паводле Ліхачэўскага, рэальная колькасць супрацоўнікаў праваахоўных органаў, якія звольніліся пасля падзей 9–12 жніўня, можа быць у некалькі разоў большай.

"Да нас звярнуўся 461 прадстаўнік сілавых ведамстваў, – сказаў Ліхачэўскі. – Гэта тыя людзі, якія запісалі відэазвароты, запоўнілі ўсе неабходныя формы. Мяркую, гэта толькі частка тых, хто звольніўся. Сілавікоў запалохваюць, ім кажуць, што нашыя грошы ідуць ад "лялькаводаў", яны баяцца і замбаваныя. Дапускаю, што рэальная колькасць сілавікоў, якія звольніліся, у некалькі разоў большая".

Ліхачэўскі таксама паведаміў, што зараз фонд BYSOL перастаў прымаць заяўкі аб дапамозе ад прадстаўнікоў праваахоўных структур. Гэта адбылося роўна праз тры месяцы пасля падзей 9 жніўня. Паводле яго, адразу пасля абвяшчэння хуткага спынення прыёму заявак адбыўся іх усплёск.

**svaboda.org**

# Анатоль Сідарэвіч: Заклік італьянскіх беларусаў у рымскай курыі пастараюцца не пачуць

Можна прачытаць, што беларусы, якія жывуць у Італіі, заклікалі рымскага біскупа Францішка сустрэцца са Святланай Ціханоўскай.

У маёй маладосці быў такі выраз – тэст на вашывасць, г. зн. тэкст на шчырасць, праўдзівасць учынкаў і слоў. Не прайшоў тэст – "вашывы".

Менавіта такім тэстам з'яўляецца заклік італьянскіх беларусаў. Словы пантыфіка пра тое, што ён любіць Беларусь, што моліцца за Беларусь, – усяго толькі словы. Трэба мець на ўвазе, што Хорхе Берголья – папуліст. А што ён папуліст, сведчаць, напрыклад, ягоныя словы ў Балоньі: "Бачу Хрыста ў кожным мігранту".

Італьянскія беларусы прапанавалі Францішку не словы казаць, а здзейсніць нешта большае – учынак.



Асмелюся ўзяць на сябе ролю прадказальніка. Заклік італьянскіх беларусаў у рымскай курыі пастараюцца не пачуць. Хорхе Берголья някепска пачуваўся ў час вайсковай дыктатуры ў роднай Аргенціне. Сваімі заклікамі да міру і дыялогу ён добранька дапамог Нікаласу Мадуру ў Венесуэле. Нехта скажа: заклікаць да міру і дыялогу – абавязак святара. Не спрачаюся, але задам пытанне: да якога міру і міру з кім і з чым? Заклікаў жа Францішак свайго часу да міру ва Украіне, так заклікаў, што ватыканскай дыпламатыі давялося доўга тлумачыць, што насамрэч Папа меў на ўвазе.

Адзін учынак Францішак ужо здзейсніў: праслаў у Мінск свайго нунцыя. Значыць, прызнаў Лукашэнку легітымным прэзідэнтам. Прыняць пасля гэтага Ціханоўскую было б для яго звышучынкам. А што на звышучынак рымскі біскуп няздольны, паказвае хоць бы тое, што ён і мітрапаліту-выгнанцу Тадэвушу Кандрусевічу ён не даў прыватную аўдыенцыю.

**Анатоль Сідарэвіч**

# Праект 23-34.net сабраў звесткі пра суддзяў, якія каралі за пратэсты

Праект 23-34.net сабраў прозвішчы суддзяў, якія абвяшчалі прысуды за ўдзел у паслявыбарчых пратэстах. У спісе ўжо 259 асоб.

"Лідарам" стаў суддзя Першамайскага раённага суда Максім Трусевіч, які абвясціў 50 выракаў паводле артыкула 23.34, агулам на 258 сутак арышту.

Канчатковая мэта праекту – сумленныя суды над усімі, хто быў датычны: "Мы хочам, каб ніводная гісторыя не была забытая. Мы хочам, каб калі ўсё гэта скончыцца, у беларусаў захавалася інфармацыя пра кожны незаконны суд, кожнае сумнеўнае пакаранне, кожны пратакол па артыкуле 23.34 і сумежны з ім".

**„Беларускае Радыё Рацыя"**

навіны

# Мікіта Мікада: БЕЛАРУСЬ СЁННЯ – ГЭТА АДЗІНАЯ КРАІНА Ў СВЕЦЕ, ЯКАЯ АКТЫЎНА ГОНІЦЬ ІНАВАЦЫІ ПРЭЧ

Мікіта Мікада, сузаснавальнік кампаніі PandaDoc, супраць якой завялі палітычную справу, распавёў у Фэйсбуку, што адбылося за тры месяцы з распачынання справы, што адбываецца з ягонай кампаніяй і IT-бізнесам наогул.



“Сёння 90 дзён, як была ўзбуджаная недарэчная “справа ПандаДок” і яшчэ на адзін месяц падоўжаны тэрмін утрымання пад вартай Віктара Куўшынава.

У СІЗА Віцю пасадзілі, каб пакараць мяне за тое, што я дапамагаў супрацоўнікам сілавых структур, якія пазбавіліся працы з-за адмовы выконваць злачынныя загады. Калі ў мяне на радзіме, у Беларусі, пачалі біць і забіваць, я вырашыў прапанаваць альтэрнатыву. Да маёй ініцыятывы Віктар ніякага дачынення не меў. Аднак рэпрэсіўная машына вырашыла, што ён вінаваты проста таму, што працаваў у маёй кампаніі.

Ужо тры месяцы Віця сядзіць. Віця класны спецыяліст. Ён сумленны, разумны, і вельмі добры чалавек. Віця займаўся развіццём прадукту і не быў уцягнуты наогул ні ў якую гаспадарчую дзейнасць прадпрыемства. У СІЗА на Валадарскага яму сапраўды рабіць няма чаго. Ужо тры месяцы мы робім спробы, каб яго адтуль дастаць:

1. Я спыніў дапамагаць тым, каго звольнілі сілавікам. Рашэнне было складаным. Аднак, працягваючы дапамагаць адным, я б нашкодзіў іншым. А шкодзіць я не хацеў, так і не хачу.

2. У пачатку мы былі актыўныя ў медыяполі і распавядалі, што ў нас адбываецца. Мы пачалі атрымліваць “сігналы”, што лепш гэтага не рабіць: не выступайце асабліва і будзе “ўсё добра”. Пасля змены меры стрымання іншым супрацоўнікам “Панды” я прыпыніў зносіны з журналістамі. Але Віця сядзіць... Так што, дарагія журналісты, пішыце / тэлефануйце.

3. З падачы нашых інвестараў справай PandaDoc зацікавіліся мясцовыя сенатары і кангрэсмены. Апошнія пакуль што шлюць лісты беларускаму амбасадару, выказваючы заклапочанасць тым, што адбылося. Што будзе далей, шмат у чым залежыць ад кабінета Джо Байдэна. Мы, усёткі, амерыканская кампанія, якую ў Беларусі жорстка кашмараць.

4. Вядома ж, на месцы працуе каманда юрыстаў. Аднак, цалкам зразумела, што “справа ПандаДок” не ляжыць у прававым полі.

Пакуль што ўсё апісанае вышэй не дае вынікаў. Віця працягвае сядзець. Зусім незразумела, якую мэту перад сабой ставіць рэжым, утрымліваючы Віцю ў СІЗА, але вось чаго яны ўжо дамагліся:

А) У другой палове 2020 і 2021 мы збіраліся ўзяць у каманду каля 200 беларусаў. Цяпер наём у Беларусі замарожаны. Неверагодных беларусаў мы ўсё яшчэ шукаем, але ўжо ва Украіне, Польшчы і Партугаліі.

Б) Беларусь стала таксічнай для IT. Кампаніі і спецыялісты павольна, але дакладна пакідаюць краіну. Вядома, наша гісторыя толькі частка мазаікі, сабранай з гвалту, адключэння інтэрнэту, пасадкі іншых ITшнікаў, і г .д. тым не менш, гэта частка істотная.

В) Наш інвестар ЕБРР (Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця) замарозіў фінансаванне ў беларускія дзяржпраекты. Толькі ў 2019 ЕБРР інвеставаў 390 мільёнаў еўра ў эканоміку Беларусі.

Г) Усе краіны, з якімі мяжуе Беларусь, працуюць над спрашчэннем свайго заканадаўства для прыцягнення IT-кампаній і спецыялістаў з РБ. Тысячы людзей з'ехалі. Дзясяткі тысяч яшчэ з'едуць.

Усе дзяржавы на гэтай планеце, акрамя Беларусі і, магчыма, Самалі, спрабуюць развіваць IT-сферу. Раней і Беларусь спрабавала. І нават атрымлівалася быць на перадавой. Аднак, Беларусь сёння – гэта адзіная краіна ў свеце, якая актыўна гоніць інавацыі вон.

Трымайся Віця! Хутка гэты недарэчны кашмар скончыцца".

Яшчэ 2 верасня чатыры супрацоўнікі PandaDoc былі арыштаваныя на два месяцы па падазрэнні ў крадзяжы ў асабліва буйным памеры (107 тысяч беларускіх рублёў) з бюджэту, нагадвае TUT.BY. 11 верасня ўсім чацвярым было прад'яўленае абвінавачванне ў махлярстве, здзейсненым арганізаванай групай альбо ў асабліва буйным памеры (ч. 4 арт. 209 КК). На думку абароны, невінаватасць супрацоўнікаў PandaDoc пацвярджаецца юрыдычнай экспертызай аўтарытэтнай кампаніі “Алейнікаў і партнёры” і аўдытарскім заключэннем кампаніі “Бэйкер Цілі Бел”. Справу расследуюць у цэнтральным апараце Следчага камітэта.

За гэтыя месяцы з СІЗА выйшлі трое ўдзельнікаў гэтай справы: галоўны бухгалтар кампаніі Юлія Шардыка, HR Уладзіслаў Міхалап і дырэктар мінскага офіса кампаніі Дзмітрый Рабцэвіч, які быў сярод удзельнікаў сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам у СІЗА КДБ. Ім абраная мера стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе – пад вартай паранейшаму застаецца толькі менеджэр па прадукту Віктар Куўшынаў. Ягоная жонка была вымушаная з'ехаць ва Украіну з сынам.

Сузаснавальнік PandaDoc Мікіта Мікада раней адкрыта выказваў меркаванне аб падзеях, якія адбываюцца ў краіне, у прыватнасці прапаноўваў варыянты дапамогі, у тым ліку матэрыяльнай, сілавікам, якія звольніліся з праваахоўных органаў. Аднак з-за арышту супрацоўнікаў ён прыняў рашэнне спыніць праект. У далейшым ініцыятыву падтрымкі сілавікоў працягнуў фонд салідарнасці BYSOL.

**Паводле novychas.by**

# БЕЛАРУСЫ БЕРЛІНА ПРАВЯЛІ АКЦЫЮ САЛІДАРНАСЦІ ЛЯ АМБАСАДЫ

15 лістапада на акцыю салідарнасці ў Берліне прыйшлі не толькі прадстаўнікі беларускай дыяспары (Razam Verein I. G.), але і лідары партыі Bündnis 90 / Die Grünen – спадарыня Ланг, спадарыня Ліберыка і спадарыня Шэфер.

Акцыя прайшла насупраць беларускай амбасады Берліна, размешчанай побач з Трэптаў-Паркам, дзе беларусы Берліна адкрылі альтэрнатыўную “Амбасаду Свабоднай Дэмакратычнай Рэспублікі Беларусь” і паднялі над ёй нацыянальны сцяг, які быў прыспушчаны з-за жалобы па забітым карнікамі Раману Бандарэнку.

Нямецкія палітыкі выказалі сваё захапленне мужнасцю беларусаў барацьбе за дэмакратыю, нязломнай упартасцю мірных пратэстаў. Яны выказалі спачуванне ахвярам зверскіх рэпрэсій і запэўнілі ў сваёй далейшай падтрымцы. На іх думку, неабходна ў першую чаргу распаўсюджваць інфармацыю аб падзеях у Беларусі не толькі ў Германіі, але і ў палітычных арганізацыях ЕС, аказваць дапамогу рэпрэсаваным, спрашчаць візавы абмен і аказваць эканамічны ціск на рэжым .

**Міхаіл Таўб, novychas.by**



гутарка

# Сяргей Будкін: УСЁ ПАГОРШЫЛАСЯ НАСТОЛЬКІ, ШТО БУДЗЕ ТОЛЬКІ ПАЛЯПШАЦЦА

Стваральнік Фонду культурнай салідарнасці расказаў, як можна дапамагчы пацярпелым ад рэпрэсій дзеячам культуры.

Размова з Сяргеем Будкіным адбываецца праз гадзіну пасля навіны аб прысудзе музыку Паўлу Аракеляну. Яго выцягнулі з аўтамабіля пасля чарговага дваровага канцэрту ў Малінаўцы, а праз два дні асудзілі на 15 сутак арышту. У фэйсбуку Будкін з гэтай нагоды змясціў запіс, дзе расказаў, што музыка здагадваўся пра хуткі арышт.


svaboda.org (RFE/RL)

### Улады пужае ўсё тое, што нас натхняе

"Вельмі дзіўныя ў мяне адчуванні зараз, – кажа Сяргей. – Я сачу за супрацівам даўно, з канца 90-х. І раней, калі ты быў музыкантам, то цябе акурат не чапалі. Мы памятаем, як N.R.M. выходзілі да помніка Купалу альбо як музыкі выступалі на Бангалоры ў 2006 годзе, дый у 2001-м былі канцэрты на прыступках Палаца прафсаюзаў. Тое, што ты музыкант, цябе ратавала ад затрымання. А ў 2020-м такая сітуацыя, што калі ты музыкант, то гэта ўжо дадатковая падстава цябе злавіць і пасадзіць. Натуральна, вайна абвешчаная ўсім без выключэння. Але музыкі, відаць, асабліва бесяць, бо натхняюць на змаганне. Логіку зразумець можна, але прыняць яе мозг адмаўляецца".

Сяргей расказвае, што паводле маніторынгу Фонду культурнай салідарнасці, з 9 жніўня ў Беларусі зафіксавана больш за 200 фактаў ціску на дзеячаў культуры. Сярод іх забароны на выступ, звальненні, затрыманні і арышты. Прычым некаторыя выпадкі ціску на дзеячаў культуры яшчэ застаюцца невядомымі, і далёка не ўсе з іх трапляюць у СМІ.

"Дзіка ўсё гэта, – кажа Сяргей. – Каб музычны гурт выцягвалі ў поўным складзе з таксоўкі, як гурт "Рэха", такога не было ніколі. Каб да артыстаў у філармонію прыходзілі і забіралі з працоўнага месца на Акрэсціна? Па шчырасці, нават пры ўсім тым трэшаку, які адбываецца, я не быў гатовы. Сігналы былі, але каб вось так люта... Я думаю, улады пужае ўсё тое, што нас натхняе.

Я сумняюся, што ва ўладаў увогуле ёсць нейкі глыбокі аналіз сітуацыі. Што яны ведаюць, як культура натхняе і мабілізуе на тое, каб наблізіць перамогу. Улада для мяне зараз – гэта гопнік, які размахвае рукамі, сляпы, глухі і тупы, але пад яго раздачу трапляюць усе на свеце. Яго раздражняе Паша Аракелян сваёй актыўнасцю і дабрынёй, раздражняе Вольны хор, які з'яўляецца з ніадкуль. Раздражняюць флэшмобы".

### Узровень дзікасці здзіўляе нават падрыхтаваных

Па словах Будкіна, цяпер ён часта размаўляе пра сітуацыю ў культурнай сферы Беларусі з замежнікамі. І тыя яму проста не вераць, што ўсё гэта праўда.

svaboda.org

Працяг чытайце на zbsb.org

навіны

# ВЫХАДЦЫ З БЕЛАРУСІ ЗАКЛІКАЛІ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА ІЗРАІЛЯ ПАДТРЫМАЦЬ БЕЛАРУСКІХ ПРАТЭСТОЎЦАЎ

Зварот падпісалі некалькі дзясяткаў дзеячаў навукі, культуры і спорту Ізраіля.

Прадстаўнікі суполкі "Беларусы ў Ізраілі" звярнуліся да прэм'ер-міністра Ізраіля Біньяміна Нетаньяху з заклікам выступіць ад імя дзяржавы Ізраіль супраць гвалту ў Беларусі і падтрымаць пратэст народу Беларусі супраць дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі. "Беларусы ў Ізраілі" перадалі тэкст звароту сайту Charter97.org.

– Мы, прадстаўнікі супольнасці "Беларусы ў Ізраілі", глыбока занепакоеныя сітуацыяй у Беларусі. На працягу трох месяцаў пасля прэзідэнцкіх выбараў 09.08.2020 у краіне адбываюцца абуральныя рэпрэсіі супраць мірных грамадзян. Гэтыя рэпрэсіі закранулі, у тым ліку, некалькіх грамадзян Ізраіля, а таксама яўрэйскай абшчыны ў Беларусі.

Грамадзяне Ізраіля Аляксандр Фруман, Арцём Пронін, Арцём Барысевіч, Ганна Сіроціна, якія гасцявалі ў Мінску, былі затрыманыя міліцыяй, збітыя і правялі некалькі дзён у СІЗА ў нечалавечых умовах. Ізраільскае пасольства ў Мінску не толькі не адразу адгукнулася на іх зварот аб дапамозе, але да гэтага часу замоўчвае гэтыя выпадкі, гэтаксама як і МЗС Ізраіля. Гэта абуральнае ўхіленне МЗС Ізраіля ад сваёй найважнейшай функцыі – абараняць сваіх грамадзян за мяжой!

21.10.2020 у Слуцку былі затрыманыя, пасаджаныя ў турму, а затым аштрафаваныя сем чалавек, якія ўскладалі кветкі ля помніка габрэям, загінулым у гета ў часы Халакоста. Пасольства Ізраіля ў Мінску праігнаравала і гэты абуральны факт!

16.08.2020 мы падалі петыцыю ў МЗС Ізраіля з патрабаваннем прызнаць афіцыйныя вынікі выбараў у Беларусі несапраўднымі і асудзіць гвалт супраць мірных грамадзян у краіне. У Ізраілі пражывае каля 120000 выхадцаў з Беларусі, петыцыю падпісала 5000 з іх. Адказу Міністэрства замежных спраў мы да гэтага часу не атрымалі.

Ізраіль – краіна, пабудаваная ацалелымі ў Халакосце і іх нашчадкамі. Гісторыя вучыць нас, што страшныя падзеі сярэдзіны ХХ стагоддзя адбыліся на фоне сусветнага маўчання. Сёння свет змяніўся. Большасць лідараў дэмакратычных краін Еўропы і Амерыкі адкрыта выступілі супраць рэжыму Лукашэнкі і падтрымалі народны пратэст у Беларусі. Сярод краін, якія прызналі Лукашэнку, – Сірыя, Іран, Туркменістан, Венесуэла. З якімі з гэтых краін Ізраіль хоча асацыявацца?

Спадар прэм'ер-міністр, мы ведаем пра вашыя асабістыя поспехі ў знешняй палітыцы на пасадзе кіраўніка дзяржавы. Вы шмат робіце для падтрымання іміджу нашай краіны як адзінай дэмакратыі на Блізкім Усходзе. Мы заклікаем вас выступіць супраць гвалту ў Беларусі і падтрымаць лідараў народнага пратэсту на чале са Святланай Ціханоўскай.



Выхадцы з Беларусі зрабілі вялікі ўнёсак у станаўленне і развіццё дзяржавы Ізраіль. У Беларусі нарадзіліся бацька сучаснага іўрыту Эліэзер Бэн Егуда, прэзідэнты Хаім Вайцман, Зальман Шазар, Шымон Перэс, прэм'ер-міністр Менахем Бегін, равін Шнеур Зальман, многія іншыя выбітныя прадстаўнікі яўрэйскага народу, уключна з вашым дзедам рабінам Натанам Мілейкоўскім. У гэты цяжкі для Беларусі час мы заклікаем Вас падтрымаць свабодалюбівы народ Беларусі!

З павагай, ініцыятыўная група супольнасці "Беларусы ў Ізраілі".

"Хартыя'97"

навіны

# У Чэхіі заснавалі амбасаду незалежнай беларускай культуры

Цэнтр эксперыментальнага тэатра (ЦЭТ) у Брне, да якога належаць тэатры "Гусь на канаце" ("Husa na provazku"), "HaDivadlo" і тэатральная платформа "Teren", засноўваюць у Брне Амбасаду незалежнай беларускай культуры ў Чэшскай Рэспубліцы. Адкрыццё амбасады сімвалічна прызначана на 17 лістапада, калі ў Чэхіі святкуецца Дзень барацьбы за свабоду і дэмакратыю.

Сэнс заснавання амбасады – папулярызацыя беларускай незалежнай культуры, якая цяпер у Беларусі знаходзіцца пад значным уціскам. У той жа час амбасада будзе спрыяць таму, каб жыхары Чэхіі мелі лепшы доступ да інфармацыі аб актуальных падзеях у Беларусі. ЦЭТ лічыць стварэнне такога моста значным і важным. Пры гэтым падкрэслівае, што амбасада не мае палітычнага фармату, гэта культурніцкі праект, скіраваны на незалежную і свабодную беларускую культуру і яе праявы ва ўсёй шырыні і разнастайнасці.

Чэхі маюць гістарычны досвед як таталітарызму, так і грамадскіх пратэстаў супраць недэмакратычнага рэжыму. Таму Цэнтр эксперыментальнага тэатра ў апошнія месяцы напружана сочыць за падзеямі ў Беларусі, дзе людзі ўжо чацвёрты месяц, нягледзячы на масавыя арышты, турэмныя тэрміны, жорсткія рэпрэсіі і запалохванне, упарта змагаюцца за справядлівыя выбары, свабоду і дэмакратыю.



Міраслаў Ошчатка, Пэтр Мінаржык, Сяргей Сматрычэнка.

"Мы разважалі, якую форму найлепей выбраць, і сышліся на тым, што ладзіць разавую дыскусію ці падобную імпрэзу не вельмі мэтазгодна, значна важней у больш працяглым гарызонце праводзіць інфармаванне шырокай грамадскасці пра тое, што ў гэтыя дні дзеецца ў Беларусі. Людзі ў сярэдняй і заходняй Еўропе, на жаль, ведаюць пра гэтую краіну вельмі мала; мы перакананыя, што незалежная беларуская культура і агульны кантэкст цяперашніх падзей у Беларусі неабходна значна выразней прэзентаваць у грамадскай прасторы", – кажа дырэктар Цэнтра эксперыментальнага тэатра Міраслаў Ошчатка і далей дадае:

"Таму мы пастанавілі пры нашых тэатрах у Брне ўвесці пасаду амбасадара незалежнай беларускай культуры ў Чэшскай Рэспубліцы. У наступныя тыдні і месяцы гэты чалавек будзе ладзіць не толькі сустрэчы ці лекцыі аб беларускай культуры, але таксама выпрацоўваць рэгулярны агляд важных грамадска-культурных падзей у Беларусі, які будзе шырока рассылацца СМІ і культурным установам Чэшскай Рэспублікі. На пасаду амбасадара мы выбралі Сяргея Сматрычэнку, які ўжо нямала гадоў у значнай ступені спрыяе ўзаемапазнанню чэшскай і беларускай культур".

Сяргей Сматрычэнка – сябра Беларускага ПЭН-цэнтра, перакладчык, рэдактар, кіраўнік кніжнай серыі "Чэшская калекцыя" (выдавецтва "Логвінаў"), ініцыятар і каардынатар шматлікіх літаратурных конкурсаў і праектаў. Апрача беларускага грамадзянства, Сматрычэнка мае і чэшскае, у цяперашні час ён з сям'ёй жыве ў Брне.

Паводле Беларускага ПЭН-Цэнтра

Працяг чытайце на zbsb.org

# Ціханоўская напісала калонку ў «Washington Post», у якой паведаміла, што паедзе ў ЗША на інаўгурацыйным тыдні

Святлана Ціханоўская разлічвае, што амерыканскі Сенат прыме Акт аб дэмакратыі, правах чалавека і суверэнітэце Беларусі да канца гэтага году. Нагадаем, 18 лістапада дакумент ухваліла Палата прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША і перадала ў Сенат гэтага заканадаўчага органа.

Як піша Ціханоўская, законапраект пашырыць кола тых, хто можа трапіць пад санкцыі ў адпаведнасці з заканадаўствам ЗША за саўдзел у рэпрэсіях. У той жа час ён акажа падтрымку незалежным СМІ і тэхналогіям для абыходу дзяржаўнай цэнзуры.

"Доступ да інфармацыі – самая моцная зброя, якую мы маем. Спробы Лукашэнкі здушыць свабодны паток інфармацыі і схаваць свае жорсткія рэпрэсіі ня могуць застацца без адказу", – заявіла палітык.

"Мы ўдзячныя Еўрапейскаму Саюзу і ЗША за іх рашучую маральную і тэхнічную падтрымку, – падкрэсліла Ціханоўская. – Мы цэнім намаганні цяперашняй амерыканскай адміністрацыі, якая нядаўна пашырыла санкцыі ў дачыненні да беларускіх чыноўнікаў, адказных за падрыў дэмакратычных працэсаў у нашай краіне. Я асабіста ўдзячная намесніку дзяржсакратара Стывену Бігану за сустрэчу са мной і гатоўнасць дапамагчы беларускаму дэмакратычнаму руху".

Ціханоўская таксама адзначыла, што за апошні месяц ЕС увёў санкцыі ў дачыненні да 59 беларускіх чыноўнікаў і асабіста Аляксандра Лукашэнкі, але, паколькі беларускі народ працягвае выходзіць на вуліцы, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы надвор'я і эскалацыю гвалту з боку дзяржавы, ёсць неабходнасць ва ўзмацненні міжнароднай падтрымкі. "Дзеянні Кангрэсу ў Вашынгтоне дадуць дадатковы эфект, падахвочваючы Брусель даць уласны рашучы адказ", – лічыць палітык.

Яна паведаміла, што плануе наведаць сталіцу ЗША на інаўгурацыйным тыдні (18–24 студзеня 2021 года; Джо Байдэн прынясе прысягу прэзідэнта 20 студзеня), каб "асабіста падзякаваць цяперашняй адміністрацыі за дапамогу народу Беларусі". "У той жа час я спадзяюся на развіццё трывалых адносін з новай адміністрацыяй, каб палегчыць пераход Беларусі да дэмакратыі", – адзначыла Ціханоўская.

3 снежня Святлана Ціханоўская афіцыйна заявіла пра гатоўнасць узначаліць краіну ў пераходны перыяд, нагадвае "Радыё Свабода".

Акт аб дэмакратыі, правах чалавека і суверэнітэце Беларусі быў прадстаўлены кангрэсменам Крысам Смітам, які з'яўляецца таксама аўтарам папярэдніх актаў аб дэмакратыі ў Беларусі ад 2004, 2006 і 2011 гадоў. Прапанова аб пераглядзе Акту аб дэмакратыі была ўхвалена без пярэчанняў.



Акт пашырае паўнамоцтвы прэзідэнта ЗША да ўвядзення новых санкцыяў у дачыненні да краіны, у тым ліку ў сувязі "са спрэчнымі прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі 2020 года і наступнымі рэпрэсіямі з боку ўраду".

"Прэзідэнт можа накласці візавыя санкцыі ў дачыненні да любога замежніка, які з'яўляецца сябрам ЦВК Беларусі ці ўдзельнічаў у маніпуляцыях на прэзідэнцкіх выбарах 9 жніўня 2020 года, з'яўляецца дзяржаўнай службовай асобай, адказнай за рэпрэсіі супраць незалежных СМІ, з'яўляецца службовай асобай Саюзнай дзяржавы ці з'яўляецца расійскай фізічнай асобай, якая актыўна ўдзельнічала ў рэпрэсіях супраць прэсы або парушэннях правоў чалавека, звязаных з палітычнымі рэпрэсіямі ў Беларусі", – гаворыцца ў тлумачэнні да законапраекта.

Паводле novychas.by

**навіны**

# ПАЛІЦЫЯ ЛОНДАНА РАССЛЕДУЕ, ХТО ЗНІШЧЫЎ МЕМАРЫЯЛ БАНДАРЭНКІ ЛЯ АМБАСАДЫ БЕЛАРУСІ

Лонданская паліцыя вядзе расследаванне знішчэння народнага мемарыялу памяці Рамана Бандарэнкі ля амбасады Беларусі. Яго стварылі беларусы Брытаніі і неабыякавыя да сітуацыі ў Беларусі грамадзяне Вялікай Брытаніі.




Вось што расказала Свабодзе Элісан Кэмэран, сябра Ангельска-беларускага таварыства, дарадца Фонду жанчын Беларусі, які ствараецца Веранікай Цапкалай і іншымі беларускімі жанчынамі, якая ўважліва сочыць за падзеямі ў Беларусі і выказвае салідарнасць з мірным пратэстам у Беларусі.

“Наш мемарыял з’явіўся насупраць амбасады Беларусі яшчэ ўлетку. Спачатку людзі ўскладалі кветкі на прыступкі амбасады. Супрацоўнікі амбасады скардзіліся, і мы пагадзіліся перанесці яго ў іншае месца, праз дарогу. За ім штодня даглядалі актывісты дыяспары і сябры”, – кажа Элісан.

Паводле Элісан Кэмэран, 13 лістапада ўвечары актывісты сабраліся там ушанаваць памяць загінулага Рамана Бандарэнкі. Яны спявалі, чыталі вершы і выступалі з прамовамі. А ў суботу раніцай мемарыял быў цалкам знішчаны. Элісан напісала пра гэта ў твітары, паліцыя звязалася з ёй і запытала, ці не хоча яна паведаміць пра гэта як пра крадзеж, што Кэмэрон і зрабіла.

Элісан Камэрон перакананая, што паколькі народны мемарыял не знаходзіцца на тэрыторыі амбасады Беларусі, дыпламатычнае прадстаўніцтва не мае права перашкаджаць людзям ушаноўваць памяць і выказваць там сваю пазіцыю.

“У цэлым наша паліцыя і мясцовыя органы ўлады не перашкаджаюць мемарыялам. Прыбіральшчыкам вуліц забаронена перамяшчаць такія рэчы. Гэтая пляцоўка знаходзілася не на ходніках, і не стварала перашкод. Паліцыя вядзе расследаванне, і я спадзяюся, што ў выпадку неабходнасці мы зможам дакладна ўстанавіць, хто прыбраў мемарыял, выкарыстоўваючы запісы відэаназірання”.

А ўвечары 14 лістапада брытанскія беларусы аднавілі мемарыял ля беларускай амбасады.

**Ганна Соўсь, svaboda.org**

# БЕЛАРУСЫ КІЕВА ВЫСТАЎЛЯЛІ ВАРТУ ЛЯ АМБАСАДЫ БЕЛАРУСІ – АХОЎВАЛІ МЕМАРЫЯЛ РАМАНУ БАНДАРЭНКУ

Беларусы, якія з’ехалі ва Украіну, уцякаючы ад пераследу за ўдзел у акцыях пратэсту, ахоўвалі мемарыял, стыхійна створаны каля амбасады Беларусі ва Украіне ў памяць аб памерлым пасля збіцця Раману Бандарэнку.

“Мы стварылі мемарыял Рамана Бандарэнкі, але высветлілася, што паводле загаду беларускай амбасады тэхнічныя службы пачалі яго прыбіраць, таму мы вырашылі яго ахоўваць. Я дзяжурыў усю мінулую ноч, зараз адпачываю, але і сённяшнюю ноч там будуць людзі”, – паведаміў “Свабодзе” Сяргей Лук’янаў.

Сяргей Лук’янаў з’ехаў з Беларусі ў жніўні. У ліпені ў яго адбыўсяператрус, бо ён быў удзельнікам тэлеграм-канала “Армія з народам”, а пазней стаў фігурантам справы Ціханоўскага.

“Беларусаў, якія вымушаныя былі ўцякаць з Беларусі, вельмі ўзрушыла сітуацыя з Бандарэнкам. У адным з храмаў Праваслаўнай царквы Украіны адбудзецца паніхіда, а пазней мы выйдзем на ланцуг салідарнасці, які вырашылі правесці на праспекце Перамогі ў Кіеве”, – дадаў ён.

Увечары 12 лістапада беларусы Кіева сабраліся каля амбасады Беларусі на акцыю ўшанавання памяці загінулага Рамана Бандарэнкі – яны ўсклалі кветкі і запалілі зніччы насупраць брамы амбасады. На наступны дзень удзельнікі акцыі накінулі нацыянальны сцяг на помнік Уладзіміру Караткевічу, які ўсталяваны побач з амбасадай, а на яе агароджы пакінулі налепкі з прозвішчамі загінулых пасля акцый у Беларусі.

**Алена Літвінава, svaboda.org**

## Беларускі каляндар памятных дат на снежань 2020 года

**5 снежня**
- 15 гадоў таму, у 2005-м, памёр Францішак Бартуль, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і ЗША, мецэнат, сябар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

**6 снежня**
- 220 гадоў таму, у 1800-м, нарадзіўся Іосіф Ходзька, навуковец-геадэзіст, падарожнік, тапограф. Памёр у 1881-м.

**15 снежня**
- 285 гадоў таму, .у 1735-м, нарадзіўся Давыд Пільхоўскі, асветнік, пісьменнік, перакладчык, выдавец. Памёр у 1803-м.
- 75 гадоў таму, у 1945-м, нарадзіўся Кастусь Мыслівец, грамадска-палітычны дзеяч. Памёр у 2006-м.

**20 снежня**
- 180 гадоў таму, у 1840-м, нарадзіўся Казімір Альхімовіч, мастак, удзельнік паўстання 1863–1864 гг. Памёр у 1916-м.
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Аскар Марыкс, тэатральны мастак, педагог. Памёр у 1976-м.
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Язэп Дашута, каталіцкі святар-марыянін. Памёр у 1966-м.
- 110 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Вітаўт Тумаш, грамадскі дзеяч, медык, скарыназнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1998-м.
- 20 гадоў таму, у 2000-м, памёр Янка Золак (сапр. Антон Даніловіч), паэт, грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**21 снежня**
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Мікалай Аладаў, кампазітар. Памёр у 1972-м.

**24 снежня**
- 110 гадоў таму, у 1910-м, нарадзіўся Уладзімір Сядура (Глыбінны), літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1997-м.

**25 снежня**
- Каляды (Божае Нараджэнне), паводле грыгарыянскага календара.

**26 снежня**
- 80 гадоў таму, у 1940-м, загінуў Баляслаў Пачопка, культурна-асветны і рэлігійны дзеяч.

**27 снежня**
- 95 гадоў таму, у 1925-м, памёр Зыгмунт Мінейка, удзельнік паўстання 1863–1864 гг., грэчаскі грамадскі дзеяч, этнограф, калекцыянер, мемуарыст.



**Беларусы ў свеце**
№ 11 (222), лістапад 2020

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27